## *У БАЛОТНЫХ ЯЛІНАХ*

“Хаваючыся напалову ў тумане, імчыць над змрочнай зямлёй дзікае паляванне караля Стаха”.
*У.Караткевіч*

У Балотных Ялінах жыве даўні страх,
Ані радасці, ані спакою.
Днём і ноччу лютуе раз’юшаны Стах,
Абвясціўшы народ свой ізгоем.

Зацугляныя коні імчаць і імчаць,
У дварах і сабакі не брэшуць,
Востраверхія вусцішна дзіды стырчаць,
Караля тыя коннікі цешаць.

Рвецца д’ябальскім крыкам зняважлівы рог,
А навокал пакора пануе.
Дык калі ужо ціхае водгулле Бог
Галасоў занядбаных пачуе ?

Там шчыруе яшчэ запалоханы птах
І блакітам натхняецца бусел.
А ці знойдзем калі мы той згублены шлях
Да зямлі, што завем Беларуссю ?

*БЕЛЫ РЫЦАР*

Як гукаў мяне зацяты крык,
Як палохаў восеньскае ранне…
Ці то крык быў гэта, ці то рык
Звера перад сконам на світанні?

Ці то гэта белы рыцар зноў
Дужыцца з той цемраю праклятай?
Ці то покліч прашчураў, дзядоў
Чую па-над над нашай старай хатай ?

Хто ён ?
Я не ведаю
Адкуль той ваяр, зыходзячы крывёю.
Толькі ён жывы яшчэ пакуль
Праўдаю бясконцаю сваёю.

Выцягну з маўклівага прадоння
Я душу скалечаную тую,
Што мае знямоглыя далоні
Моцаю апошняю ратуе.

*АНЁЛ*

Бяскрылы анёл.
Ён амаль паміраў,
Ратуючы нечыя лёсы.
У цемені ночы няўцешна згараў.
Па твары каціліся слёзы.
Ён моцу згубіў у бяссонні начэй,
Ушчэнт ён пазношваў адзенне.
Ад пылу пагляд прытупіўся вачэй,
Не стала былога мігцення.
А крылы свае ён даваў напракат,
Каб мы набіраліся сілы.
Ды іх адзін раз не вярнулі назад,
Без крылаў анёлу –магіла.
Зраблю я з вільготнай яму іх расы,
Пазычу у сонейка промняў
Святлом каб аздобіць яго валасы,
І каб пра мяне крышку помніў.
Цяпер, мой анёл, развітаемся мы,
Ляцець у нябёсы ты можаш.
Калі занядужу ад скрушнай зімы,
Тады мне і ты дапаможаш.
Бо я свае крылы даю, як і ты,
Зняверaным лётаць у неба.
А што –калі іх забяруць назаўжды,
Абыдуцца з імі ганебна?
Дык ты прылятай у той час да мяне,
Мо злепіш з чаго-небудзь крылы…
Бо я пражываю жыццё, бы у сне –
Без крылаў ні руху, ні сілы.

*ЦІША*

Там без цябе самотна,
Дзе цішыня начуе.
Колерамі гаркоты
Цішу малюю тую.

Чвэрцю ці палавінай
Доўжыць яе я буду,
Рэхам гучу адзіным
У прадчуванні цуда.

Ноч адыходзіць зданню.
Крокі, як ноты піша.
Спадчынай на світанні
Зноў пакідае цішу.

***

Нібы пад нейкім сцішаным прымусам
Настойліва гамонім ні аб чым.
І любім мы з табой, як беларусы.
І так жа, як яны, з табой маўчым.

*МАЛІТОЎНАЕ*

З Табой размаўляю штодня,
Нанізваю словы-пярліны
На крылы нямых птушанят
Пакутнай і любай Айчыны.
Дзе стогнуць бядой курганы,
Ад болю зыходзіцца памяць,
Круляюць яшчэ груганы
І край свой зняволены ганьбяць.
Ці ёсць у бясконцасці Ты?
Ці чуеш пакутныя крыкі?
Ты ж бачыш, балююць звяры,
Нахабным пужаючы рыкам.
Няўжо не пачуеш ізноў,
Як лёсам самоцяцца гусі.
Не ў госці прыходзь, а дамоў –
Да роднай маёй Беларусі.

*НАПЯРЭДАДНІ ЗІМЫ*

Бягу я ад сябе усё хутчэй.
Цікавіць мяне фініш майго кросу.
Пагляд самотных восеньскіх вачэй…
Банальна.
І, на першы погляд, проста.
Чаго чакаю?
Дзе прытулак мой?
І шчырасцю ці выстудзяцца вочы?
Не лечыць боль,
Не цешыць позірк твой.
І камянямі восеньскія ночы.
Што забяру ў адвечную дарогу?
Якія скарбы ціхая душа
На Суд прадставіць Велічнаму Богу,
Калі міне апошняя імша?
Пра тое запытаюся у рэха…
Пушынкі у чарнявых валасах
Карункавым вядзьмарскім абярэгам
Даўно рыхтуюць зманлівы пасаг.
Так страшна жыць з маною
І без веры.
Злятаюць дні у сцішаны абшар.
Каторы дзень адчыненыя дзверы
У прадчуванні летуценных мар…

***

Як жа добра мне з Вамі было,
Як ні з кім, і ніколі, ні разу…
Струмянела спагадай святло,
Ні папрока ад Вас, ні абразы.
Нават злая старэча-зіма
Не адолела трапным марозам.
Не прыдумала ж гэта сама –
Вашы словы, пачуцці і слёзы.

***

Яе стане прыход нечаканы.
Адвячоркам аднойчы уздых
Будзе цешыць пякельныя раны
Нешчаслівых гадоў маладых.

І рукою сваёй запалёна
Абарвеш ты сукенку з пляча.
Захістаецца неба шалёна
У тваіх у прыгожых вачах.

І ты возьмеш засмаглыя вусны.
Што са стогнам жадаюць цябе.
З асаблівым табе толькі густам
Смакаваць будзеш стравы яе.

Яна стане паіць цябе сытай,
І вядзьмаркаю цешыць твой слых…
Толькі розумам зноў не заблытай
Трапяткога кахання уздых.

Бо спатоленыя табою,
Як вадою вясновы абсяг,
Расквітнеюць пупышкі вярбою
На яе мармуровых грудзях.

***

Я магу у табе растварыцца,
Зліцца з вірнай гарачай крывёю.
Чысцінёй незямной наталіцца,
Як бальзамам гаіцца табою.
Толькі доўжыцца смага бясконца,
На душы то трывожна, то пуста…
Застаецца запаленым сонцам
Цалаваць твае спелыя вусны.

***

Я дыханнем сваім аднойчы
Тваіх вуснаў крануцца мару
Пасярод звар'яцелай ночы
На ускрайку бязмежнай хмары

Я вільготнасць твайго пагляду
Вып'ю ўсю да апошняй кроплі
Пад чароўнай ночы прыглядам
Я дрыжаць мушу свечкай крохкай

Даставаць будуць пальцы гукі
З незнаёмых вяршыняў свету
У сімфоніі мае рукі
Уладкуюць сугуччы гэтыя

І калі мой анёл тужлівы
Узмахне крыламі уверсе
Мне не страшна ужо мажліва
Мне не жудасна і памерці

***

Адпускаю цябе.
Адпускаю,
Мой цудоўны анёл незямны.
Табе веру,
Ды ўжо не чакаю,
Што наведаеш нашыя сны.
Нас усіх надзяляе па змозе
І ярмом, і цяжарам Пан Бог.
Не згубіўшы сябе па дарозе,
Ты мяне ад маўчання збярог.

*УВЕЧАРЫ*

Прыйшла дамоў.
І зноўку у самоту правальваюся,
Бы ў пустую цемень.
Перакладу сутонне я на ноты
І занатую шэрыя адценні.
Дзьвярыма моцна бразнуць дзесьці зверху.
Шчанюк абудзіць сцены гучным брэхам.
Суседзяў сварка з пятага паверху
У сэрцы адзавецца тужным рэхам.

***

Па кухі сумнай, цішаю спавітай,
Прайшлася ноч бязгучным дэфіле.
Той кубак кавы, крышку недапітай,
Стаяць застаўся сумна на стале.

Тваёй рукой фіранкі тут закрыты.
Адшморгну заўтра, можа, іх…
Але той кубак кавы,
Крышку недапітай,
Няхай стаіць таемна на стале.

***

Ужо душа кладзецца трафарэтам
На нечую такую ж душу…
Як мне з табою лёгка быць паэтам!
Як я з табой вялікасна грашу!

І з тваіх жменяў прагна п’ю спакусу.
Смакчу пчалой гаркавых вуснаў мёд.
Якая апасля свайго укусу
Не зможа здзейсніць другасны узлёт.

Гарацьагнём саспелыя жаданні,
Збег у нябыт знявераны спакой.
І ноч усю –
Да самага світання –
Мая падушка дыхае табой.

***

Яна была немаладой.
І ён спаткаў яе тады,
Калі было жанчыне той…
Не будзем называць гады.
Танклявасць рысаў.
Гнуткі стан.
Жаноцкасць мяккая плячэй.
Усмешкі лёгкае падман.
Смарагды цёмныя вачэй.
Шаўком яна прашамаціць,
Захопіць водарам ў палон.
І доўга ён той водар сніць,
Як насланнё і як праклён.
Шляхецкай годнасці прысуд
Яго і мучыў, і штурхаў
На часта невымоўны блуд.
Ён ненавідзеў.
Ён кахаў.
І абяцаў сабе наноў
Забыць яе амаль штодня.
Але кранала зноў і зноў
Вачэй халодных глыбіня.
Ён мроіў:"Ваша Ягамосць,
Чаго маўчыце Вы, чаго?"
Яна ж глядзела бы наскрозь,
Нібы не бачыла яго.
Пагляд прыцішаных вачэй
Таемнасць поўніла яе…
А бессань горкая начэй
Яму спакою не дае.
Дарэмны намаганняў плён,
Не ведаў , што тады сказаць,
І чым адметным мог бы ён
Вулкан прытоены ўзарваць.

*КАХАНКА*

Абдыме.
Пацалуе рагатуха.
Аблапае нахабнымі рукамі.
І шэпча-шэпча жарсці мне на вуха,
І галаву ўпрыгожвае вянкамі.

З хітрынкаю нахабніцы распуснай
Лісіцай адмысловаю уночы
Мілуе плечы, грудзі, вочы, вусны,
І перадыху мне даваць не хоча.

Яшчэ злякне, бы пудзіла якое,
У аканіцы звонку загрукоча.
А потым, як вядзьмарка, у пакоі
Крычыць, галосіць, пыхкае, рагоча.

Калючаю мужчынскаю шчакою
Балючыя адбіткі пакідае.
Не ведаю ні сну я, ні спакою.
Што за каханка дзіўная такая?

Даўно яна пякеліць мне сумленне,
Даўно ляжыць на мне яе праклён.
Прыму усе з пакораю імкненні,
Бо Памяццю завуць яе здавён.

## **ВЯСЁЛКА**

*ЧЫРВОНАЕ*

Забяры у нябыт, наваколле,
Скрушны крык звар’яцелага рання.
На гарачым, пякельным вуголлі
Пад прысудам нямое каханне.
Ні адзення на ім, ні абутку.
Счырванелі стамлённыя ногі.
Захлыналіся вочы ад смутку,
Патухала душа ад знямогі.
Рыхтавалі агонь да світання
Вартавыя ваўчынае зграі.
І спалілі святое каханне,
І пазбавілі сэрцайка раю.
Не крычаць ад пакутнай трывогі
Палачоў груганoвыя душы.
Толькі тыя згарэлыя ногі
Я у снах бачыць провідных мушу.
Калі толькі закрыю я вочы –
Ва уборах цнатлівых вясельных
Яны вальсам знявечаным ноччу
Па вуголлях кружляюць пякельных.

*ПАМЯРАНЦАВАЕ*

Успомні – у маім дарожным ранцы,
Бы сымбаль старажытнага зароку,
Два рыжанькіх вясёлых памяранцы
Прывезла я табе у Празарокі.

Ты не Адам.
І я была не Ева.
І памяранцам спакушаў не змей.

Ты Зеўсам быў,
І золатам залевы...
Мне напамін –анёлкавы Пярсей.

Пераплялiся жоўты і чырвоны,
І сталіся саспелым памяранцам
Героі міфа ў рамцы залачонай
З карціны знакамітага галандца.

Раўняў мяне з рэмбрантаўскай Данаяй
З-за колеру зрыжэлых валасоў.
Не ведаю, ды штосьці нас яднае –
Жанчын эпох усіх і ўсіх часоў.

І сёння памяць цешыць мае вушы,
Ды час шчыміць самотай праз гады.
Я у сукенцы колеру вяснушак.
Два памяранцы.
Сонейка.
І ты.

*ЖОЎТАЕ*

*Сяброўцы, скончаўшай самагубствам*
Хаваючы твар свой пад жоўтым плашчом,
Знямогшыся ад адзіноты,
Пакутаваў дадзеным звышай крыжом
Вандроўнік адзін з Карыёту.
Змярцвелую глебу глытком наталяў,
Каб стала жардзіна аднойчы
Прыгожаю кветкай з сухога былля,
І каб адпусціў грахі Ойча.
Хрыстос не стамляўся яго павучаць
І шчыра дзяліць з ім сакрэты.
А Юда і слухаць, і ціха маўчаць

Імкнуўся, спагадай сагрэты:
“Гасподзь прасвятліць цябе Духам Святым
І прыме ў Нябеснае Царства,
Калі толькі годна прайсці зможаш тым
Пакутніцкім шляхам мытарстваў.
Бо мусіш ты ведаць, што ведаю я,
У Божую вечную славу
Трымае пакуль цябе гэта зямля,
Ідзі і рабі сваю справу.”
І сталася так.
І настаўнік Хрыстос
Крыжом неадольным распнуты.
А Юда сябе у ахвяру прынёс,
Спазнаў за Ісуса пакуты.
Ад спуду асіна у стромкім віры
Зняслаўлена зашамацела.
Усё калыхала яна на вятры
Зжаўцелае Юдава цела…
І я, як той Юда, хвілінай адной
Любоў прамяняла на кпіны,
Вось толькі жыццё перайначыць пятлёй
Мне моцы тады не хапіла.
Ды звыклася жыць у нямым палыне.
Нібы кацянятка-прыблуда,
Гляджу я з надзеяй у вочы вясне,
Часцей забываюся Юду.
А восеньскі час я зусім не люблю,
Не вабіць зжаўцелае ранне,
У садзе старым я лістоту палю,
Як нашае тое каханне…
І ведаю я, Божы Сын уваскрос,
Каб людзі дзівіліся цуду,
Каб верай і праўдай пакутны Хрыстос
Мяне ўратаваў.
І Юду.

Ад гэтага сёння імпэту свайго
Не збаўлюся, як ад спакусы…
А, можа, калі б не было яго,
Не зведалі мы б Ісуса ?

*ЗЯЛЁНАЕ*

Я дастаю, нібы з нябыту,
З куфэрка памяці нямой
Твае каралі з малахіту,
Падараваныя вясной.

Зноў вечаровую сустрэчу
Люстэрка ладзіць мне з табой.
На аксамітавыя плечы
Кладзе каменьчыкі журбой.

Яны у вочы б'юць сафітам.
Душу пякеляць мне яны.
Твае каралі з малахіту
На шыі, быццам валуны.

*БЛАКІТНАЕ*

Ну што ж, заходзь…
Не будзем на парозе
З табой маўчаць разгублена.
Вядома, тваe змярцвелі рукі на марозе.
Няхай адыдуць.
А тады – дадому.

Дый дому у цябе няма, магчыма,
Такім, як ты, належыць жыць у замку.
І хто ты, незнаёмы мне мужчына?
Чаму стаіш разгублена на ганку?

Быць можа, я сама цябе з блакіту
Стварыла, як анёла незямнога,
З празрыстага маўклівага нябыту,
На Бога так падобнага замнога?

Мо вып’еш кавы горкай ?
Ці гарбаты?
На жаль, вось толькі цукру я не маю.
Хоць і жыву, як бачыш, небагата,
Але ж знаёмым грошы пазычаю.

Мне ветлівай, руплівай гаспадыняй
Цябе сустрэць хацелася з дарогі.
Калі ж тваёй я сталася рабыняй???
Рабоў не любяць велічныя Богі.

*СІНЯЕ*

Сну няма.
Кручуся доўга ў ложку.
Зноў бяссоннем ноч не абміне.
Моўчкі усміхаюцца валошкі
У празрыстай шклянцы на акне.

Што ж яны паглядам так трывожаць?
Што ж раптоўна так гадзіннік б’е?
Колерам на іх падобны, можа,
Вочы сіняватыя твае?

Сну няма.
Фінал бяссоннай ночы.
Той пагляд агнём усё пячэ.
Хай глядзяць валошкавыя вочы
На мяне дакорліва яшчэ.

*ФІЯЛЕТАВАЕ*

“Я па шляху вірнаму,
Бы па трапу,
Як мага імкнуся хутчэй.
Б’е званіцамі твой “ Deep Purple”[1],
Не шкадуе пакутных вушэй.
За тваім прымроеным сілуэтам
Я з малітваю: “Адпусці”…
Што рабіць цяперака з гэтым?
Не ляцець не даеш,
Не ісці.
Ты, як кара Божая,
Як вендэта,
Душыш сэрца мне камянём.
Дык ці здолееш фіялетавым
Праляцець іскрамётным агнём?”

Так каханне наўздзіў гаварыла мне
З небыцця нямога ізноў.
Свой апошні уздых дарыла
Перад тым, як вярнуцца дамоў.

“Не, не мушу ўжо
І не здолею.
Не хачу услед за табой.
Буду вольніцай лепш на волі я,
Як разыдзецца дым над вадой.
Ты апаленай скрушнай каметаю
Узляцела у вышыню.
Табе дзякую я за гэтую,
За апошнюю дабрыню.”

---

[1] “Дым над вадой” і “Камета” – вядомыя музычныя альбомы легендарнага гурта “Deep Purple”

Можа, грэшніцай пераборлівай
Адлячу за ім у Сусвет.
Толькі позірк той зноў дакорліва
Разлівае па сэрцу свет.
І калі у хвіліны вясновыя
Паглядзіш у вочы мае,
Зразумею я –
Гімны новыя
Маё сэрца яму прапяе.
Падсілкуюся крышку да лета я,
Наталюся цнотай снягоў.
Гучным колерам фіялетавым
Намалюю каханне наноў.

## ВАЛЬС ПРА КОТКУ

Я котка, якая гуляе сама па сабе…
Па вузкіх сцяжынках птушынага звонкага гаю.
Сакрэты свае давярае маўклівай журбе,
Ды з дрэва высокага моўчкі на вас пазірае.

У коткі зусім гаспадыні ніякай няма,
Кружляе на даху задумліва пад небасхілам.
Заўжды гаспадыняй заможнай бывала сама,
Калі ж не ставала настрою - мышэй не лавіла.

Ты котку вясёлую сёння пабачыў ізноў,
Няўжо не пазнаў па паходцы бязважкай і гордай?
Вяртаюся толькі, калі я стамлюся –дамоў,
І песні складаю, іладжу пад іх я акорды.

Калі ж на сцяжынцы я мажнага стрэну ката,
Шчыльней зачыню перад ім я сталёвыя дзверы.
Я волю сваю больш нікому ужо не аддам,
І хітрым катам я цяпер ні за што не паверу.

Пам-пам-пам-пам-пам-пам…

## ВОСЕНЬ

Цябе вельмі замнога...
І вочы, і вусны
У кроках апошніх згарэлага мая...
Да Магутнага мушу звяртацца я Бога,
Ён аднекуль з бясконцасці моўчкі за мной назірае:
“ Не трэба мне адной мне так многа...”

Цябе вельмі замнога...
У дрэвах, у птушках...
У сёняшнім дробным дажджу спруцянелым...
У лістку, што гаркавай пяшчотай злятае...
Толькі ў сонцы апаленым і неўзаметку збалелым,
Напэўна, цябе я не маю...

Цябе вельмі замнога...
У ранку здранцвелым,
Душу што вятрыскай наскрозь працінае
І шалёнаю моцаю круціць яшчэ піруэт...
Ты ляціш?
Адлятай...
Цябе вырай маўклівы чакае.
Мне пакінь толькі восеньскі свой сілуэт.

# ВЕЦЕР

О, вецер, вецер,
Восеньскай парою
Прымрой мяне сваёю калыханкай.
Цябе ж, мажліва, суджаным прымрою,
Да скону буду вернай я каханкай.
Стаміўся ты ганяць па небу хмары,
Ні ў дзень, ні ў ноч не ведаеш спачыну.
Узгадваю даўно пра твае мары
Займець хоць невялічкі адпачынак.
Перадыхні.
Усё зрабіў, што мог ты –
Дажджы, залевы, скінутыя дахі.
Як ёсць – да ніткі сам наскрозь прамоклы,
І панаводзіў на людзей ты жахі.
Я ведаю, характар твой нялёгкі,
І люты ты бываеш, і лагодны,
Дарую пыхі ўсе твае з палёгкай,
Даўно лічу цябе я сябрам годным.
Як і належыць восеньскаму ветру,
Ты холадам навіснеш над плячыма,
І шапачку з карычневага фетру
Сарвеш, нібы няўрымслівы мужчына.
Схаваешся маўкліва мне у грудзі,
Кранеш душу спагадай і пяшчотай.
За цябе, вецер, не асудзяць людзі,
А ты мяне пазбавіш адзіноты.
…І стала ў свеце ціха і цнатліва,
Заснуў вятрыска стомлены да ранку,
А я над ім і ціха, і гулліва
Шчырую беларускай калыханкай.

***

Два спадзяванні
Сэрца адное
Белае ранне
Бегла за мною
Дзве паралелі
Сутнасць адзіна
Горкім алеем
Стыне карціна
Сонца і неба
Розум вяртае
Пульхная глеба
Шчэ я жывая

## ВЕРАСНЁЎСКІ ВЕЧАР

Верасень згасае непрыкметна,
Дажывае свой апошні дзень.
Восені пахмурныя прыкметы
Кідаюць на нашы твары цень.
Ты кранаеш ціха мае плечы,
Моўчкі наліваеш мне віно.
Гэта вечаровая сустрэча,
Быццам чорна-белае кіно.
Ведаю, сказаць аб нечым маеш.
Лепей будзем піць з табой віною
Слоў не трэба.
Бачу, што кахаеш.
І кахаеш, ведаю, даўно.
Ноч увосень надыходзіць рана.
Хвіля развітання не міне.
Добра ўсё ж, што так нечспадзявана
Ты прыйшоў у госці да мяне.

## НА СПЕКТАКЛІ “СОН У ЛЕТНЮЮ НОЧ”

Мастацтва тэатральнага аматар
Не піша вершаў, гаварыць мастак.
Даўно ён запрашаў мяне ў тэатр,
Нарэшце ўчора адказала:”Так”.
“Рамэо і Джульета” і “Атэла”,
І “Гамлет”, і магутны “Кароль Лір”…
Даўно убачыць тое я хацела,
Даўно цікавіў велічны Шэкспір.
Вось толькі ён павёў мяне на дзею,
Дзе з казкай перабблытана жыццё –
Пра Іпаліту, Гермію, Тэзея,
Пра эльфаў невымоўнае быццё.
І думала:”Чаму я не на сцэне?
Маё жыццё, нібы той сумны сон.
Які ўжо год рыхтуе мізансцэну
Пад марша гукі шчыры Мендэльсон.”
І ўсё б нічога –
Высілкі акцёраў,
Яго яшчэ не кепскае аўто,
Эклектыка “крутога” рэжысёра,
Пададзенае спрытна паліто,
Калі б хапіла вышняга імпэту,
Калі б вачэй кранала глыбіня,
Каб за высокім, мажным сілуэтам
Не пыхкала пустая сумятня.
Ты мне даруй, што рыжую сукенку
Я апранула у адметны дзень.
За мной, нібы за пекнаю паненкай,
Сачыў аднекуль твой нябачны цень.
Не спраўдзіліся скрушныя надзеі.
І марна ўсё.
Я спаць хачу.
Адбой.

І п’еса б спадабалася, і дзея,
Калі б была ў той вечар я з табой.

## НЕВЫКАНАНЫ ВАЛЬС ШАПЭНА

Я прызвычаілася жыць у цішыні.
Ніхто не крыкне,
Не заплача,
Не ўздыхне.
Як у дзяцінстве, ты усмешкай калыхні,
Даруй памылкі неабачлівыя мне.
Я навучылася таксама даравацъ,
Бо ўсё найлепшае, напэўна, ад цябе.
Цяпер і часу мне стае салодка спаць,
А ўсё не спіцца ў незгаворлівай журбе.
Яна цяпер замест цябе жыве у нас,
У нашай хаце ёй прызначаны пастой.
Ні электрычнасць не патрэбна ёй, не газ,
Не карыстаецца ні лазняй, ні вадой.
Прасіла, памятаеш, вальс табе сыграць,
Што у нябёсы феерверкамі імчаў?
Ты можаш, мама, мне і гэта даравацъ,
Што мой Шапэн тады цябе не прывячаў?
Прылягу ноччу я,
І чую зноў уздых.
Ён чый, матуля?
Адкажы мне, адкажы...
Нясцерпным болем ты вярэдзіш зноўку слых.
Душа распнута на тваім нямым крыжы.
У гэту нудную халодную імжу
Мне б так патрэбна было шмат табе сказаць...
Ну што з таго, што я на могліцы хаджу?
Што не пачула ты –цяпер мне не сказаць.

## РАЗМОВА З БОГАМ

А з дзіцячай душою сваёю
Я і грэшніца,
І святая.
Пазаві яе за сабою,
Дык яна яшчэ палятае.
Дык яна яшчэ столькі гімнаў
Услаўляючых праскладае.
І паміраецца палавіны –
І грахоўная,
І святая.

## ТВОЙ КОТ

Ну, як твой кот?
Ці лашчыць ён цябе
Ад вечару да самага да рання?
Ці расказаў яму ты пра мяне,
Пра наша непазбежнае спатканне?
Ты гаварыў –высокай ён пароды
І нейкай невымоўнае красы...
Не ведаю, ці з той жа я нагоды
Пафарбавала сёння валасы?

## СУСЕД

Вясна пяшчотай акварэлі
Гуляла з квеценню садоў.
Старыя, ссохлыя арэлі
Рыпелі радасна ізноў.
З нядаўна зладжанай тэрасы
Нахабна зыркае сусед,
А я на новенькіх абцасах
Табе спяшаюся услед.
І тое так яму цікава,
(Напэўна, туфлі ўпадабаў!)
Што ўраз забыўся ён пра каву,
Якую у руках трымаў,
Калі крыху неспадзявана
Убачыў ён, як пад вярбой
Нясмела і зачаравана
Мы цалаваліся з табой.
…І ўжо паглядам сарамлівым
Сачыў разгублена за мной.
Сусед успамінаў, мажліва,
Як цалаваўся ён вясной.

## СМС

Захварэла заляцаннем.
Ды змяшаў усё прагрэс,
І сустрэчы, і растанні –
Наш раман у СМС.

Замянілі ліставанні
Тэхналогіямі спрэс,
І жывем цяпер дыханнем
Хуткакрылых СМС.

Адпраўляюцца жаданні,
Як прыспешаны экспрэс,
І ад вечара да рання
Мы друкуем СМС.

Крочыць па жыцці каханне,
А ў мяне суцэльны стрэс,
Бо лячу я на спатканне
Не з табой, а з СМС.

Каб ліліся вершаванні
Са спагадаю, ці без,
Мне патрэбны, як дыханне,
Як ратунак –
СМС!

## НОЧЧУ, СЛУХАЮЧЫ БЛЮЗ

Якая ў гэтай музыцы туга…
Як быццам жураўліны клін увосень
Ірве аблокаў спуджаную просінь,
І вочы засціць шэрая смуга.
Напомніць неспадзеўкі мне яна
Пра тое утрапёнае каханне,
Пра нашую бяссонніцу да рання,
Якую не палохала зіма.
Я тыя гукі пальцамі крану,
Нібы сябе дыханнем падсілкую.
І ведаю, што шчасную такую,
Мяне ты зваў у шчырую вясну.

***

Абажаць –значыць шчыра кахаць.
Дык кахаю, кахаю, кахаю !
Цябе подыхам калыхаць
Кожны дзень я сабе дазваляю.
А у ноч, калі мусіш ты спаць,
Я анёлам нябачным лятаю.
Абажаць –значыць Бога спазнаць.
Гэта ведаю.
І кахаю.

***

Свечка.
Агонь.
Пажар.
Недзе Шапэн рыдае.
Душы.
Абдымкі.
Жар.
Веру.
Хачу.
Жадаю.
Высі.
Касцёл.
Арган.
Я ўжо амаль святая.
Мроі.
Палын.
Дурман.
Богу цябе вяртаю.

## СУБЛІМАЦЫЯ

Сублімацыйныя вершы
Шпарка дыктуе аловак.
Ён і жыццё маё вершыць,
Ён і падказвае словы.

Цешыць бяссоннем уночы
Душаў мяцежных трымценне.
Чую і бачу, што хочаш
Светам аздобіць імгненне.

Немаччу спуджаных жахаў
Гляне драпежная поўня.
Водар спакуслівых пахаў
Ноччу пакой мой напоўніць.

# ЗОРЫ

Калі вечар запальвае зоры,
Каб уночы мне з вышы свяціць,
Нехта велічны з лёгкім дакорам
На мяне невымоўна глядзіць.
Галаву апускаю з пакорай,
Ды вышыняў мне тых не стае,
Бо здаецца, што зоры –не зоры,
А узнёслыя вочы твае.

## РОДНАЯ ДУША

За цяжкасцю свайго крыжа,
Бывае, не прыкмеціш,
Што недзе родная душа
Жыве на белым свеце.

Яна адкрыта назаўжды
І шчырасці, і цуду.
Выратавальныя сляды
Яе шукаць я буду.

Калі ж душы такой няма.
Адзінае у свеце –
Тады Стварыцель нас дарма
Пакінуў у Сусвеце.

***

Ты раўняў мяне з акіянам,
Толькі , ведаеш, я –не ён.
Параўняй лепш мяне з вулканам,
Што буцьвее яшчэ здавён,
Што аднойчы неспадзявана
Узнясёцца у вышыню,
І душа твая палымяна
Будзе прагнуць таго агню.

## У ВАРШАВЕ

За столікам варшаўскага кафэ
У сцішанай і невялічкай зале
Сядзелі Вы у модным галіфэ,
І раптам:”Пані пенкная”, -сказалі.

Я словы тыя цяжка разумела,
Дый палічыла іх тады маною,
Калі на столік сумна і нясмела
Паклалі ружу Вы перада мною.

## РЭКВІЕМ МОЦАРТА

Па-над дахамі поўня навісла,
Неяк жудасна неба маўчыць.
У праклятым быцці, ненавісным
Скрушны рэквіем ціха гучыць.

Цішыні выціраю я слёзы,
Гэта ж трэба сяброўку займець!
Памірыліся мы з “Лякрымозай”,
Каб бяссонне тваё зразумець.

Мае сцены таемнасцю поўніць
Колер мудрасці строяў тваіх.
Так хітруе навіслая поўня
Над паверхам над трэцім маім.

## ПЕРФОРМАНС

*(чытаць пажадана на адным дыханні)*

Я вар'яцею ад цягнікоў
Што нясуць мяне у бясконцасць
А вецер шалёны ўрываецца ў вокны
Цалуючы прагна мае валасы
І я не шкадую аб тым што дару
Сябе суразмоўцам
Такім жа вясёлым і шчодрым як я
Чамусьці мастачкай мяне называюць
Ці то закаханай
Што ў прынцыпе адно і тое ж
А сэрца грукоча рыфмаю колаў
І вецер не можа ніяк супыніцца
У звар'яцелым імпэце
Мілуе і песціць мне вочы і вусны
Фарбуе румянец на твары
Не хоча аддаць цягнікам нізашто
Мяне ён
Не
Гэта не вецер
З табою мы ведаем хто

## НЕСКАЗАНАЕ

Невымоўны імгненні
Непазбежных імпэтаў
Над мяжою сумненняў
Мрояць зноў сілуэты
І знаёмыя рысы
Пад дыханнем сагрэты
Лістападаўскі прысак
Зацягнуў цыгарэту
Беспрытульныя лёсы
Ціхі ранак дыктуе
Покліч сініх нябёсаў
Ад пакутаў ратуе…

## ЗОРКА

Ляцела зорка з нябёсаў
Гарачая, залатая.
Акрыленая, узнёслая.
Прыгожая, маладая.
Была яна працай плённаю
Нябеснага Майстра з блакіту,
Адкрытаю, запалёнаю
Вандроўніцаю з нябыту.
І многім не спадабалася
Гарэзлівай мілатою.
"Павінна, - усім здавалася, -
Хадзіць яна пехатою.
Дый з зорак крыху выбівалася
Гарачынёю сваёю,
Вось так і не затрымалася
Лятаць над грэшнай зямлёю.
На свет той зоркі лячу я,
"Мяне пачакай!" – крычу ёй,
Бо я, як выгнанніца раю,
Шляхамі тымі ж блукаю...

***

Калі цябе няма ў маім сусвеце
Губляе сэнс усё маё жыццё,
І зоркі ў небе шчасна мне не свецяць,
І невыносна вольнае жыццё.
А на сцяне, як бедныя сіроты,
Як быццам ува мне цябе працяг,
Як сімвал невымоўнай скрушнай цноты –
Ружанец...
І пакутны сумны сцяг.

## МАЯ ВІНА

Мая віна, што я жанчынай
У гэты дзіўны свет прыйшла,
Што на высокай аблачыне
Жыццё сваё я пражыла.

Чыя віна, што твае вочы
Даўно стаміліся без сну,
Што да мяне такі ахвочы?
Вазьму і гэтую віну.

Судзіце, людзі,
І паліце
За грэх уяўны на кастры.
А я салоўкай у блакіце
Спяваць вам буду да зары.

***

Закружыла зіма, закружыла,
Мімалётнай хадою усцешыла дух.
Моўчкі на поўні яна варажыла,
Каб мройнай знічкі адной агонь не патух.

Там, у краіне, дзе вецер-вандроўнік начуе,
Дзе сніць свае сны бярозавы гай,
Добры ахоўнік узнёслую песню пачуе
І прыме нас назаўжды у велічны рай.

Сэрцы са снегу і льду капяжамі
Растрывожылі і растапілі цноту зімы.
Струны Сусвету у міг задрыжалі,
У дзіўны казачны сон, каб паверылі мы.

Там, у краіне, дзе вецер-вандроўнік начуе,
Дзе сніць свае сны бярозавы гай,
Добры ахоўнік узнёслую песню пачуе
І прыме нас назаўжды у велічны рай.

***

Мае слязінкі хай застынуць
Сівінкамі на чорных валасах.
Анёлы ціхія нябачна іх пакінуць
Табе, як невымоўны мой пасаг.

Хачу жыццё тваё, каб доўжылася вечна,
Каб не сустрэў ты здраду і ману,
Каб час вірлівы, строгі, невылечны
Тужлівым ліхалеццем абмінуў.

І кожнай серабрынкаю сваёю
Успомніш перад сконам ты мяне.
Была і я калісьці маладою,
І марыла аб шчасці і вясне.

## ДОЖДЖ

Сумны восеньскі дождж.
У заўчаснай нудзе
На цябе ён падобны у нечым.
Неспадзеў назначае сустрэчы,
І на плечы таемна мне рукі кладзе.
І з лістоты зжаўцелае тчэ дываны,
Як якой каралеве пад ногі.
І не хоча прыпешваць дарогі
Да акрыленай, шчаснай вясны.
Сумны роспачны дождж...
Ён ідзе і ідзе...
І ніколі не цешыцца сонцам.
Ты, як восеньскі дождж той бясконцы,
Ад якога схавацца не мушу нідзе.

***

Вусны –спелыя вішні,
Звіняць што адценнямі лета.
Калі дзяліў Усявышні
Душы сярод паэтаў,
Дык ёй трапяткая дасталася,
Што з Богам Магутным зналася.
Узнёслася непаўторная,
Дзівосная, непакорная.
Самотная і вірлівая.
Адкрытая і шчаслівая.

***

Не так зашмат такіх жанчын
З вачыма бездані глыбокай,
З душой наіўнай і высокай,
Як подых лёгкіх аблачын.
Хадой імклівай перайсці
Ваш лёс яны не змогуць двойчы.
Такіх жанчын толькі аднойчы
Спазнаць вы маеце ў жыцці.

## МЕСЯЦ

У сонным небе месяц заблудзіўся,
Узбочыў на няёмкую дарогу.
І да мяне на ночку запрасіўся,
Прынёс здалёк здзіўленне і трывогу.

О, месяц, месяц!
Вольны ты, як вецер,
Сябруеш з кожнай зоркай у блакіце.
Няўжо табе так тужна у нябыце,
Што на зямлі мяне ты запрыкмеціў?

А ён маўчаў.
І цешыў мае вочы.
І запалёна рукі цалаваў.
Так і стаялі.
Двое сярод ночы.
Пакуль самотны ранак не настаў.

***

Вось так і жыве чалавек.
Нясе на плячах свой век
І думае кожны дзень аб знішчаным.
Няхай хоць не мне, ды іншаму,
Таму, хто нясе і вязе,
У гэтым жыцці павязе.

## МАЛЮСЯ

Колькі злосці у свеце гэтым,
Што з’ядае душы паэтаў.
Кленчу моўчкі,
Ды прагну раю,
І згараю…
Згараю…
Згараю…
Калі Ты той пажар не тушыш,
Уратуй хоць нашыя душы.
Адвядзі, ліхалецце, Божа,
Акрамя Цябе хто паможа?

## АДНАМУ ЗНАЁМАМУ ПАЭТУ

Задыхаюся.
Плёткі.
Здрады.
Крыўдай словы ляцяць у свет.
Толькі сёння я вельмі рада,
Што жывеш недзе там, паэт...
Твае вочы –нябёс спакусы,
Хоць маўчун, дый пісаць мастак.
Я ад праўды не адракуся.
Я такая ж, як ты – дзівак.

## Я НЕ ПАЭТКА

Гавораць мне:”Ты –не паэтка,
Не так ты пішаш, не аб тым,
Што лепш вязала б ты сурвэткі.
Пакінь жа вершы маладым!
Ну паглядзі, якое племя
Таленавітых і “крутых”,
Рыфмуе рыфмы пакаленне,
У грыву сыпле і пад дых.”
І я гляджу.
І вочы долу
Зусім апушчаны мае.
І ўжо ні дню без валідолу,
І моцы болей не стае.
Дык што рабіць мне з той нагоды?
Пакорна пенсіі чакаць?
Палоць шматлікія гароды,
На лёс пакутны наракаць?
Радочкі жвавыя пішу я,
Ды недарэчнасці ізноў,
Рыфмую нават (во грашу як!)
Я з дзеясловам дзеяслоў.
А што ж рабіць, бо дзеясловы
Жыццю дыханне надаюць,
І з неба сыплюць, сыплюць словы,
Па галаве ахвярнай б'юць.
Складанне вершаў –не забава,
Дарадчык любы, не смяшы,
Пішу я іх не дзеля славы,
А дзеля тонкае душы.
Нясцерпную абразу тую
Як-небудзь я перажыву,
Бо я сваё жыццё рыфмую,
Бо паэтычна я жыву !

Як я падслухаю у рэчкі
Адвечны жвавы бег яе –
Ураз сплывуць удалеч спрэчкі,
І сэрца гімны зноў пяе.
А калі я лясной вадзіцы
Пап’ю халоднай пакрысе,
І нібы тая чараўніца,
Абмыю вочы у расе –
Зноў адлятаю у аблокі,
Рукамі знічкі я лаўлю,
І з высяў нехта мне высокіх
Шапоча ціхенька:”Люблю”…
І стане ціха ў наваколлі.
І гэта ціша –набыццё,
Бо зразумею я міжвольна,
Галоўны верш –
Маё жыццё.

***

“Калі мяне не стане на зямлі,
Прашу вас, не сумуйце над магілай,
Няхай вы не зрабілі, што маглі,
Няхай ламалі часта мае крылы.
Дарую вам ману, суровасць, злосць,
Ганебнасць і прыдзірлівасць, і жорсткасць,
А мне маю даруце маладосць,
І шчырасць,
І нястрыманую порсткасць.
Асуджаная Богам на любоў,
А можа, і праклята з нейкай мэтай,
Адданая была сярод сяброў.
Адкрытая была сярод паэтаў”.

…Як часта разважаю я аб смерці.
А разабрацца –ладам не жыла.
Бо, ведаеш, таму хачу памерці,
Забыцца пра цябе каб я магла.
Ды ўсё ж-такі на ціхім небасхіле
Забыць цябе хачу, мабыць, дарма –
Калі ТУТ уратуюся магілай,
То ТАМ такой магчымасці няма.